# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 39 (709) 28 ВЕРАСНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

## У БЕЛЬСКІМ АДДЗЕЛЕ БГКТ

8 верасня 1969 года ў Бельскім аддзеле БГКТ адбылося чарговае пленарнае пасяджэнне Праўлення аддзела з удзелам прадстаўнікоў Павятовага камітэта ПАРП і Аддзела асветы і культуры ППРН. У пасяджэнні ўдзельнічала 17 асоб (на 20-ціасабовы склад Праўлення).

На парадку дня стаялі наступныя справы: 1) заданні Бельскага аддзела на месяцы кастрычнік — снежань гэтага года; 2) абмеркаванне спраў, звязаных з нарадай настаўнікаў беларускай мовы і загадчыкаў пачатковых школ Бельскага павета; 3) разгляд спраў, якія датычаць правядзення нарады старшынь гурткоў БГКТ Бельскага павета; 4) вырашэнне шэрагу праблем, звязаных з самадзейным мастацкім рухам у павеце.

Пасяджэнне прайшло ў працавітай атмасферы. Праўленне прыняло рашэнне правесці нараду настаўнікаў беларускай мовы і загадчыкаў пачатковых школ супольна з Аддзелам асветы і культуры ППРН і прысвяціць яе такім справам, як: 1) сучасны стан навучання беларускай мовы ў пачатковых школах павета — дакладчыкам будзе працаўнік Аддзела асветы; 2) асаблівасці навучання беларускай мовы ў спалучаных класах — з дакладам выступіць загадчык школы ў Дзяніскax — М. Антанюк; 3) настаўнік беларускай школы — арганізатарам самадзейнага мастацкага руху ў сваім асяроддзі — дакладчык — прадстаўнік ГП БГКТ. Нараду плануецца правесці ў другой палавіне кастрычніка.

Нараду старшынь гурткоў БГКТ вырашана прысвяціць: 1) абмеркаванню дагэтуляшніх дасягненняў у працы гурткоў, 2) іх задачам і метадам працы ў асенне-зімовы перыяд 1969/70 г.г., 3) абмеркаванню спраў, звязаных з самадзейным мастацкім рухам у гуртках. Нараду мяркуецца правесці ў пачатку лістапада.

Праўленне рашыла правесці супольна з Аддзелам асветы і культуры ППРН беларускія дэкламатарскі і чытальніцкі конкурсы для моладзі пачатковых школ.

Абмеркавана таксама справы, звязаныя з паляпшэннем працы Бельскага беларускага хора.

З задавальненнем Праўленне сцвердзіла павелічэнне колькасці членаў БГКТ у павеце ў апошні час на 250 чалавек і сарганізаванне новага гуртка БГКТ пры Бельскай ЦэПэЛ-лі.

Вёў пасяджэнне старшыня Бельскага аддзела БГКТ, дырэктар Бельскага беларускага ліцэя — мгр Мікалай Гайдук.

(мг)

## СУСТРЭЧА З КІРАЎНІЦТВАМ КУРАТОРЫІ

11 верасня ў памяшканні ГП адбылася сустрэча з кіраўніцтвам Куратoрыі беластоцкай школьнай акругі — куратарам Эдвардам Крынскім, начальнікам прафесіянальнага школьніцтва Збігневам Дамброўскім (ён прысутнічаў як старшыня нацыянальнай камісіі пры Ваяводскім камітэце ПАРП) і начальнікам плана і бюджэта кураторыі — Уладзімірам Мялешкам. У размовах, якія адбыліся ў вельмі сардэчнай і цёплай атмасферы, ад імя Беларускага таварыства бралі ўдзел старшыня ГП Міхась Хмялеўскі і сакратар Янка Зенюк.

Абмяркоўваліся асветныя справы, а ў тым ліку і неабходнасць паклікання да жыцця секцыі беларускага школьніцтва пры акруговым метадычным цэнтры. Пастаноўлена таксама ў лістападзе супольна арганізаваць сустрэчу ўсіх выкладчыкаў беларускай мовы (свайго роду з'езд настаўнікаў) з кіраўніцтвам Галоўнага праўлення БГКТ і з кіраўніцтвам кураторыі на чале з куратарам Эдвардам Крынскім.

(мс)

## РАЗМАЎЛЯЕМ З САКРАТАРОМ ГП БГКТ



Заказі і пачатку новага культурна-асветнага года звярнуліся мы да сакратара Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства сябра Янкі Зенюка з некалькімі пытаннямі:

**— Сябра сакратар, што будзе асноўным у набліжаючымся асенне-зімовым сезоне?**

— Маем не малыя дасягненні ў аматарскім руху. Справа ў тым, каб яго дасканаліць, дапамагаць у пошуках новых, больш сучасных форм. Неадкладным заданнем з'яўляецца належны інструктаж калектываў мастацкай самадзейнасці. Спецыялістаў паспрабуем знайсці ў Ваяводскім і павятовых дамах культуры і іншых культурных арганізацыях і ўстановах. Асаблівую ўвагу думаем звярнуць на планаванне дзейнасці ў Таварыстве, ад Галоўнага праўлення — да гуртка. Трэба так паставіць, каб планы тэтыя не былі адарваны, але выходзілі з патрэб асяроддзя.

**— У свой час у БГКТ ішла бурлівая дыскусія на тэму дзейнасці гурткоў БГКТ. Указвалася, між іншым, на адсутнасць нейкай праграмы дзейнасці гурткоў і на нездавальняючы стан іх працы. Што вы на гэта?**

— Справа не ў праграме ў даслоўным гэтага слова значэнні. Справа ў тым, каб дзейнасць гэтая была сапраўды дзейнасцю гурткоў БГКТ, а не дзейнасцю арганізаванай штатнымі працаўнікамі таварыства. Калі так будзе, гурткам не трэба будзе накідаць ніякай праграмы. Кожны гурток зможа знайсці ў сваёй вёсцы шмат спраў, якія патрабуюць развязкі дарогаю супольнага грамадскага дзеяння. Найчасцей гурток БГКТ абмяжоўваецца да вядомых здаўна форм культурнай дзейнасці, як арганізаванне рознага тыпу мастацкіх




аматарскіх гурткоў. Кожная вёска мае аднак свае ўласныя праблемы: будова аб'ектаў культурнага жыцця, справа тэхнічнага прагрэсу вёскі і ўвядзення новых метадаў гаспадаравання, павышэння сельскагаспадарчай прадукцыі, праблема арганізацыі адпачынку і г.д.

**— Што можна сказаць аб планах асветнай працы ў гуртках БГКТ?**

— Перш за ўсё павінна яна быць мадэрнізавана — павінна быць больш сучаснай і атракцыйнай. Напрыклад: трэба абавязкова выкарыстаць у асветнай працы тэлевізійныя праграмы. Глядзяць, скажам, тэлевізійную праграму на сельскагаспадарчыя тэмы, а потым праводзяць дыскусію і робяць вывады

Працяг на стар. 4

## НА ЗАВОДЗЕ І Ў ПАВЕЦЕ

Першае, што кідаецца ў вочы, гэта квітнеючыя ружы. Чырвоныя, жоўтыя, крэмавыя. Займаюць увесь панадворак. Каляровыя кусты растуць побач тратуараў, вытаптаных сцежак. Можа гэта таму, што больш 35 працэнтаў калектыву завода складаюць жанчыны, захопленыя кветкамі, можа і мужчыны гэтай схільнасці набралі.

Гайнаўскі завод драўніннай прамысловасці адносіцца да багацеяў у краіне і мае ў маштабе Гайнаўкі вялікае значэнне. Цяперашні ўзровень вырабаў гэтага завода ставіць яго ў чарзе перадавых вытворцаў дрэваапрацоўчай прамысловасці. Завод высылае 30 працэнтаў вырабаў за граніцу, у тым таксама і ў капіталістычныя краіны. Дасягненні калектыву завода з'яўляюцца бясспрэчнымі. Аднак гэта не абазначае, што былі выкарыстаны ўсе магчымасці далейшага ўзросту прадукцыі пры існуючым вытворчым патэнцыяле.

Дыскусія над матэрыялам V з'езда сталася размовай аб уласных праблемах, унутры завода. Над лепшай арганізацыяй прадукцыі, палепшаннем якасці вырабаў, над дасягненнямі ўрэшце, бо 50-гадовая гісторыя завода не прайшла бескалярова. Нешта было зроблена, удасканалена, зменны калектыў нейк стабілізаваўся, завод разбудаваўся, рабочых пастаянны лік 1.200 чалавек, а прадукцыя ўзрастае. Яшчэ 4 гады таму выходзіла з завода вартасць прадукцыі 130 млн. зл. у год — цяпер звыш 180 млн. зл. На працягу апошніх 5 гадоў вартасць прадукцыі на 1 рабочага павысілася на 36 тысяч зл.

### ЁСЦЬ ЯШЧЭ РЭЗЕРВЫ

А ці можна яшчэ лепш, яшчэ больш? Можна. Дадатковыя прадукцыйныя абавязацельствы прынятыя ў гонар 25 гадавіны ПНР склалі суму 3,5 млн. зл. Зараз выканана ўжо 3,7 млн. зл.

Бо рэзервы, калі іх шукалася ўчціва, былі. Нават у самай арганізацыі працы. Гэтае сцверджанне з'яўляецца вынікам праведзенага комплекснага аналізу датагачасных метадаў гаспадарання. У святле пастаноў V з'езда і II пленума пераанлізавана дакладна нанесеныя інвестыцыйныя выдаткі і атрыманыя прадукцыйныя эфекты.

Гэтая гаспадарская ацэнка становішча вынікае са зразумення рангу завода ў сістэме гаспадаркі краіны, у фармаванні напр. матэрыяльнага балансу. Прыведзеныя ўжо ва ўступе велічыні найлепш акрэсліваюць патрэбу гаспадарлівасці, як найбольш эфектыўнага выкарыстання трывалых сродкаў.

— Вырабляем інвестыцыйнае дабро, — падкрэсліваюць таварышы з гайнаўскага завода, — занадта моцна абцяжар-

Працяг на стар. 4



Прадукцыя «Ляўкова — I». Фота Цаф — Сянько

Пачатак на стар. 1

# У СУПРАЦОЎНІЦТВЕ СІЛА

для свае вёскі. Або экскурсіі. Чаму не выкарыстаць экскурсіі як своеасаблівай формы адукацыі? Заязджаюць, для прыкладу, члены гуртка ў раён, дзе сельскагаспадарчая культура значна вышэйшая, чымсьці ў нас,назіраюць, як там гаспадаруецца, ды вучацца, што з гэтага можна прымяніць у нашых умовах.

**— Гэта праўда, але каб гэтыя формы працы аказаліся магчымымі, неабходна каб гурткі БГКТ праявілі большую чымсьці дагэтуль актыўнасць у сваім асяроддзі.**

— Актыўнасць нашых гурткоў залежыць ад аўтарытэту нашай арганізацыі сярод насельніцтва, а аўтарытэт — ад добрага, ідэйнага актыву. Добры ж актыў у сваю чаргу залежыць ад нашага супрацоўніцтва з грамадскімі і палітычнымі арганізацыямі. Даходзім такім чынам да істоты справы, наша сіла ў супрацоўніцтве, у неразрыўнай сувязі з усімі дзейнічаючымі ў беларускім асяроддзі грамадскімі і палітычнымі арганізацыямі, а асабліва з партыйнымі арганізацыямі. Мы ўжо падпісалі канкрэтнае паразумленне з Саюзам вясковай моладзі, якое акрэслівае мэты і метады супрацоўніцтва паміж нашымі арганізацыямі; падобныя кантакты будзем навязваць і з іншымі арганізацыямі і ўстановамі. Гэтае супрацоўніцтва мае і глыбейшы, ідэйны сэнс. Падкрэслівае яно наяўна нашую неразрыўную сувязь з жыццём усяе краіны і ўсяго народа. Беларусы ў Польшчы, развіваючы сваю нацыянальную культуру, развязваючы творча праблемы сваіх вёсак і гарадоў — прымаюць такім чынам актыўны ўдзел у намаганні ўсяго грамадства Польшчы дзеля сацыялістычнай разбудовы сваёй краіны.

**— Аб якіх яшчэ істотных справах таварыства хацелі б вы сказаць чытачам «Нівы»?**

— Розных спраў і праблем цяпер у таварыстве шмат. Адной з асноўных з'яўляецца справа школьніцтва. Ёсць тут шэраг цяжкіх, дагэтуль не развязаных праблем: недахоп настаўнікаў беларускай мовы, справа неадпаведнага выкарыстання настаўнікаў, якія праходзяць штогадовыя курсы ў БССР і г.д. Маем намер дапамагчы асветным уладам у іх развязцы. Іншай справай з'яўляецца праблема пашырэння дзейнасці таварыства ў новых асяроддзях. Асаблівую ўвагу ў гэтым годзе хочам звярнуць на студэнцкае асяроддзе Беластока. Хочам таксама палепшыць нашу выдавецкую дзейнасць, якая мае вялікае значэнне ў пашырэнні ва ўсёй краіне ведаў аб беларусах, іх жыцці і працы.

Размову вёў

**Ул. Паўлючук**

# Калі прытульным стане дом...



**«Курпе зелёнэ».** **Фота Цаф — Сянько**

Распачаўся чарговы культурны год. Усе ўстановы, клубы і ўсе людзі прыступілі з новай энергіяй да новай працы. На вёсцы гэтая праца вяжацца моцна з адпачынкам, фізічным адпачынкам пасля жніва, воркі, капання бульбы — аграмаднай і цяжкай працы ў полі.

Але восень? Пара дажджоў і меланхоліі... Няхай восенню разыдуцца косці, мускулы напружаныя распружацца. Поле апусцела. Стала больш вольнага часу. І прытульным стаў дом. Паглядзець тэлевізар, пачытаць кніжкі і газеты.

Для інфармацыі нашага чытача, які любіць узяць у рукі «Ніву», спяшаем падаць праграму дзяржаўных беластоцкіх культурных устаноў: драматычнага тэатра, тэатра лялек, сімфанічнага аркестра, эстрады. Можна толькі прачытаць праграму, а можна і выбрацца на тое, што хто ўпадабае.

**ПРАГРАМА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА ІМЯ А. ВЯНГЕРКІ Ў БЕЛАСТОКУ НА СЕЗОН 1969/70**

(Каб не змяняць, падаем загалоўкі папольску)

**На вялікай сцэне будуць ісці:**

1) Ernest Bryll — „Rzecz listopadowa”
2) Jerzy Jurandot — „Ballada o tamtych dniach”
3) Leonid Rachmanow — „Niespokojna starość”
4) Henryk Bardijewski — „Aktorzy” i „Mała komedia”
5) Peter Schaffer — „Czarna komedia”
6) Antoni Czechow — „Wiśniowy sad”
7) Calderon de la Barca — „Życie jest snem”
8) Juliusz Słowacki — „Horsztyński”
9) Prosper Merimee — „Teatr Klary Gazul”

**На малой (камеральнай) сцэне будуць ісці:**

1) Bohdan Drozdowski — „Kondukt”
2) Aleksander Ścibor-Rylski — „Bliski nieznajomy”
3) W. Heynowski i C. Scheuman — (adaptacja R. Smożewskiego) „Wyznania mordercy”
4) Mar Bejdżijew — „Pojedynek”

**Выязная група падрыхтуе:**

1) Wiliam Szekspir — „Wieczór Trzech Króli”
2) Nikolo Machiavelli — „Mandragola”
3) Carlo Goldoni — „Mirandolina”
4) John Patrick — „Każdy kocha Opalę”

**ТЭАТР ЛЯЛЕК «СВЕРШЧ» У БЕЛАСТОКУ — СЕЗОН 1969/70**

1) Jan Ośnica — „Baśń o dwóch nieustraszonych rycerzach” — sztuka dla widzów w wieku szkolnym kl. III—VIII.
2) Jean-Louis Temporal — „Teatrzyk Jeana” dla dzieci młodszych kl. I—III i przedszkolaków.
3) Ludwik Górski — „O zajączku, który nie umiał zliczyć do trzech”. Sztuka dla najmłodszych, przedszkolnych i szkolnych z klas I—II.
4) Ludwik Górski — „Misie nie chcą spać”, dla najmłodszych i z kl. I.

У наступным нумары падамо праграму сімфанічнага аркестра і эстрады.

# ЛЮДЗІ БГКТ



**Піліп Кізевіч (першы справа) на апошнім з'ездзе БГКТ.**
**Фота Цаф — Сянько**

## ДЗЯДЗЬКА ПІЛІП

Вядомы дзеяч БГКТ — Піліп Кізевіч, пасля 52 гадоў працы адыходзіць на заслужаны адпачынак.

Нямнога ёсць беластачан, якія б у так складаных палітычна-эканамічных абставінах апошняга паўстагоддзя зрабілі так многа для свайго асяроддзя, для свайго народа, для ўмацавання дружбы і добрасуседскіх адносін паміж людзьмі, як Кізевіч.

Піліп Кізевіч нарадзіўся ў 1898 г. у вёсцы Стральцы на Гродзеншчыне. Пасля заканчэння Свіслачскай семінарыі і настаўніцкага курса ў гады I сусветнай вайны пачаў настаўнічаць на Паволжы, потым Паўночным Каўказе. Вярнуўшыся пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі дамоў, працы ў школе не атрымаў. Вымушаны быў рабіць усё, што траплялася: быў санітарам, рабочым тытунёвай фабрыкі ў Гродне, брукаром, а ад 1932 г. пасля 3-гадовага турэмнага зняволення за распаўсюджванне савецкіх кніг да 1944 г. быў рабочым беластоцкага водаправода. Недавер санацыйнай улады быў небеспадстаўны. Кізевіч — актыўны дзеяч «Грамады», потым ТБШ, КПЗБ — быў ёй ворагам.

Пасля вызвалення П. Кізевіч працуе ў Ваяводскім камітэце ПАРП у Беластоку, а потым — у Кураторыі Беластоцкай школьнай акругі. Ад 1954 г. да апошніх дзён — ізноў у Беластоцкім водаправодзе, але ўжо дырэктарам. Палову свайго жыцця поіць ён жыхароў і прамысловыя прадпрыемствы Беластока чыстаю вадою.

Але нашым чытачам ён асабліва шырока вядомы як дзеяч БГКТ. Ужо ў 1944—45 гадах Кізевіч паклаў многа намаганняў у арганізаванні асветы ў беларускім асяроддзі Беласточчыны і арганізаванні навучання роднай мовы. Будучы ў Кураторыі візітатарам школ з беларускай мовай навучання ўносіў многа працы ў наладжанне забеспячэння гэтых школ адпаведна падрыхтаванай кадрай, падручнікамі, дапаможнікамі. Адсюль, ужо як вопытны дзеяч, уваходзіць у склад арганізацыйнага камітэта БГКТ. Яму даручана весці I-шы з'езд Таварыства, ён жа адкрываў таксама V з'езд прысвечаны 10-годдзю працы. Увесь час выбіраюць яго або ў склад ГП БГКТ, або Галоўнай Рэвізійнай Камісіі.

Вялікі жыццёвы вопыт, шчыра бацькоўскія клопаты аб развіцці арганізацыі, трапная ацэнка людзей, вера ў свае пачынанні і сілы моладзі гарантавалі яму сярод членаў і сімпатыкаў БГКТ давер і шырокую папулярнасць.

У дзень яго адыходу на пенсію жадаем «дзядзьку Кізевічу» добрага здароўя, многіх гадоў жыцця і далейшай грамадскай дзейнасці.

**Ул. Юзвюк**

Пачатак на стар. 1

# НА ЗАВОДЗЕ І Ў ПАВЕЦЕ

ваючае дзяржаўны бюджэт, і не можам дапусціць да якой-небудзь работы ўпоцемкі.

### ШЛЯХІ ДА МЭТЫ

Як таварышы завода намераны асягнуць накрэсленую мэту? Адной з важнейшых умоў будзе паступовая ліквідацыя таго дзеяння, якое з'яўляецца працаёмкім. Поспеху ўзросту прадукцыі і паніжэнню працаёмкасці пасадзейнічае ўвядзенне пастаяннай фатаграфіі дня працы, а таксама прымяненне ў некаторых рабочых месцах і ў цэлых брыгадах сістэмы «До-Ро». Метад «добрай работы» дазволіць паднесці на вышэйшы ўзровень якасць вырабаў.

Аналіз выкарыстання прадукцыйных здольнасцей выяўляе шмат рэзерваў. З уваг і прапаноў вопытных работнікаў, а таксама прапаноў паклікаНых камісій утварыўся падрабязны план выкарыстання гэтых рэзерваў. Зробім гэта дзякуючы паскарэнню некаторых інвестыцый і інтэнсіфікацыі патрэбных спецыялістаў, асабліва мэбельшчыкаў, стварэнню лепшых умоў маладым спецыялістам пачынаючым працу, а таксама пабольшанню змен. Пачынаем уводзіць у жыццё план канкрэтных спраў, якія пасадзейнічаюць палепшанню арганізацыі прадукцыі і шырэйшаму ўвядзенню тэхнічнага прагрэсу, а гэтым самым панізяць працаёмкасць асвоеных новых вырабаў.

Калектыў гайнаўскага завода драўніннай прамысловасці мае нялёгкае і складанае заданне. Новы асартымент прадукаваных вырабаў — мэблі — павінен адбыцца хутка і спраўна — ніхто ж не звольніць завода ад дастаўкі ў продаж планаванай колькасці добрай якасці патрэбнай мэблі. Пры дапамозе Аб'яднання калектыў зможа сваё заданне выканаць. У шырокай дыскусіі ўсяго калектыву накрэсліваюцца кірункі далейшага развіцця завода, профіль яго прадукцыі і канкрэтныя спосабы асягнуць мэту.

### ШЫРОКАЕ АЖЫЎЛЕННЕ

Затрымаўся я крыху даўжэй пры гайнаўскім заводзе драўніннай прамысловасці, але гэта не абазначае, што праяў сур'ёзнага ажыўлення пасля II пленума ЦК не сустракаем ва ўсім Гайнаўскім павеце. У прадпрыемствах, фабрыках, вёсках праводзяцца сходы, гутаркі, накрэсліваюцца канкрэтныя заданні для ПОП. Варта падкрэсліць той факт, што многа гаворыцца аб дасягненнях павета, аб яго пасляваенным авансе, асабліва аб здабытку апошніх гадоў. Аб развіцці прамысловасці ў павеце тыпова ж сельскагаспадарчым. Бо акрамя большых фабрык і заводаў ёсць і развіваюцца меншыя. Найбліжэйшая перспектыва — пуск фабрыкі мэблі з колькасцю рабочых 600, будова фабрыкі стружкавых пліт і разбудова Ляўкова II.

Пайшла наперад і сельская гаспадарка. З 27 тыс. га зялёных угоддзяў 2/3 ужо меліяравана, сярэднія ўраджаі збожжа асягнуць 16 ц/га. Прымяненне штучнага ўгнаення павысілася з 10 кг у 1964 г. да 45,8 кілаграмаў на 1 га зараз. Павет налічвае ўжо 120 км мясцовых дарог, па якіх ездзяць аўтобусы ПКС. Дадайма — усеагульная сельскагаспадарчая навука, далучым — 18 калектываў маладога селяніна, якія вучаць сучаснага, эканамічнага гаспадарання.

### ПЕРШ ЗА ЎСЁ — БУДАЎНІЦТВА

Аб якіх справах дыскутуе вёска на партыйных сходах як і ў размовах з прадстаўнікамі павятовай і грамадскай улады? Выяўляецца цэлая група праблем. Патрабаванне лепшага выкарыстання сельгасмашын, больш спраўнае размеркаванне штучных угнаенняў, шырэйшай разбудовы сеткі малачарняў, паколькі жывёлагадоўля тут павялічваецца.

Найчасцей закранаецца справа будаўніцтва. Не таму, каб на вёсцы мала будавалася. Як бы там ні было, а будуецца штогод каля 120 будынкаў, пераважна гаспадарчых. Патрэбы, аднак, большыя і хіба для Гайнаўскага павета спецыфічныя. Звязаны яны з успомненай меліярацыяй зялёных угоддзяў. Дзякуючы ёй павялічыўся ўраджай сена, у некаторых сялян сягаюць яны да 100 цэнтнераў з гектара. Пашы столькі, што сустракаюцца яшчэ 2 ці 3-гадовыя стагі сена (ў Вітаве і Ягад-




# СКАРАСНОЕ НАВУЧАННЕ ЗАМЕЖНЫХ МОВАЎ

Веданне замежных моваў з'яўляецца амаль неабходнасцю ў сучасным жыцці. Справа аднак у тым, што пры дапамозе зараз прымяняемых метадаў навучання чужых моваў на арганізаваных у нас курсах, мовы гэтай можна навучыцца не раней чым праз 2—3 гады. Гэта задоўга. Ці ёсць спосабы хуткага, скажам за месяц, авалодання замежнай мовай? Аказваецца, што так.

Замежнай мовы можна навучыцца за 30 дзён пры занятках 4 гадзіны ў дзень. За гэты час курсант атрымлівае запас у дзве тысячы слоў у размоўных фразах. Пасля заканчэння курса ўдзельнікі могуць свабодна гаварыць у рамках прысвоенага слоўніка, чытаць газеты, кніжкі.

Такі метад навучання апрацавана ў Балгарыі, а звязаны ён з прозвішчам балгарскага лекара Георгія Лазанава, які зараз стаіць на чале Навучна-даследчага цэнтра па сугесталогіі пры міністэрстве асветы НРБ. Трэба дадаць, што ў Балгарыі пры дапамозе гэтага метаду навучана замежнай мове больш 1.500 чалавек.

У чым жа заключаецца гэткая сістэма адукацыі? Доктар Г. Лазанаў гаворыць, што звязаны ён са з'явай гіпермнезіі (надзвычайнага запамятання). Абычна гэтая з'ява назіраецца ў выключных выпадках. Аднак практыка даказала, што свядома можна стварыць такія ўмовы ў працэсе навучання, што гіпермнезія станецца не выключэннем, але правілам.

Апрацаваны Г. Лазанавым метад не мае нічога супольнага ні з гіпнозам, ні з сугестыяй у часе сну. Проста на занятках ствараецца такія ўмовы, пры якіх чалавек пераконваецца, што яго здольнасці, яго памяць авалодаюць на многа большымі магчымасцямі, чым звычайна прынята лічыць і чым лічыць ён сам. У гэтай методыцы аграмадную ролю адыгрывае аўтарытэт, інтанацыя, спакойнае акружэнне, музычны фон і т. п.

Др Лазанаў сцвярджае таксама, што «хуткае» навучанне замежнай мове не толькі не адбіваецца дрэнна на здароўі, але дапамагае яму. Медыцынскія назіранні даказалі, напрыклад, што тыя, хто скардзіўся перад пачаткам заняткаў на розныя недамаганні нервовага характару, пазбег іх. У працэсе заняткаў слухачы не толькі не мучацца, але як бы адпачываюць, адчуваюць прыплыў сіл і энергіі, хаця многія з іх вучацца пасля нармальнага дня працы.

Заняткі праводжаныя апісаным вышэй метадам можа весці кожны настаўнік. Але для гэтага ён абавязкова павінен авалодаць комплексам псіхолага — метадычных прыёмаў, якія называюцца сугесталогіяй.

У Сафіі плануецца адкрыць школу, дзе навучанне ўсіх прадметаў вырашана весці на ўказанай методыцы. Гэта абазначае, што апрацаваны балгарскімі вучонымі метад навучання можна прымяняць пры навучанні такіх прадметаў як: алгебра, матэматыка, фізіка і іншыя.

А. Кар.








У апошнім часе ўвагу палітычнага свету прыцягнула да сябе арабская краіна ў Паўночнай Афрыцы — Лівія, дзе ў бескрывавай рэвалюцыі звержана манархія і ўстаноўлена рэспубліканская ўлада.

Багаццем краіны з'яўляецца нафта, адкрытая не так даўно (велізарныя залежы) і эксплуатаваная замежнымі кампаніямі.

На першым здымку вы бачыце разваліны збудаванняў эпохі рымскага панавання ў Трыпалітаніі (акруга Лівіі). На другім — вуліцу сталіцы — Трыпалі.




### ВАЛЯР'ЯН

Гэта трывяністая расліна з дробнымі бледна-ружовымі пахучымі кветкамі расце на вільготных лугах, паміж хмызнякоў на балотах, на ўзлесках і ў ярах. З лячэбнымі мэтамі выкарыстоўваюцца карнявішчы і карэнні. Яны ўтрымліваюць да двух працэнтаў эфірнага масла, якое мае складаны эфір барнеол і ізаваляр'янавую кіслату, камфен, пінен і іншыя тэрпены. Акрамя эфірнага масла, у карэннях і карнявішчах ёсць свабодная валяр'янавая кіслата, алкалоіды валярын, хітынін і інш.

Збіраюць карнявішчы і карэнні валяр'яна ранняй вясной да з'яўлення лістоў або восенню, калі ўжо асыплецца насенне, а лісты і сцябло пачнуць жоўкнуць і адміраць. У гэты перыяд падземная частка валяр'яна дае найбольш каштоўную сыравіну для вырабу лякарстваў. Выкопваць карнявішчы трэба разам з іх шматлікімі прыдаткавымі карэннямі. Корань ачышчаюць ад зямлі і прамываюць у вадзе. Пасля гэтага двое сутак карэнні прасушваюць на паветры, а потым — у цёплых памяшканнях або ў печы пры тэмпературы 30—40 градусаў. Каб не перасушыць карэнні, іх трэба часцей пераварочваць.

Прэпараты з валяр'яну выкарыстоўваюць у медыцынскай практыцы як заспакойваючы сродак пры нервовых захворваннях.

У народнай медыцыне ўжываюцца водныя адвары валяр'яну пры нервовых растройствах, галаўным болю, для апетыту.




### Суп бульбяны з баранінай

На мясе і касцях зварыць булён. Калі мяса стане мяккае, пасаліць, дадаць памытую і ачышчаную гародніну, працягваць варку. Бульбу абмыць, абабраць, нарэзаць на кубікі, пакласці ў працэджаны булён, зварыць. Суп заправіць светла-залацістай мучной запраўкай, дадаць мяса, нарэзанае на кубікі. Прыправіць часнаком, расцёртым соллю і перцам. Усыпаць накрышанае зяленіва пятрушкі. Замест мучной запраўкі можна забяліць суп смятанай.

На 300 г мяса з касцямі — 200 г гародніны, 500—600 г бульбы, 1 3,4 л вады, 30 г тлушчу, 20 г мукі, 1—2 зубкі часнаку, перац, соль, 1 лыжка пакрышанага зяленіва пятрушкі.




...апошні вандруючы голуб (горлінка) загінуў у няволі ў заалагічным садзе Цынцінаці (Агайо, ЗША) 1 верасня 1914 года.

...першае месца ў спісе выміраючых жывёл належыць яванскім насарогам. Іх засталося ўсяго 24.

## Чвэрць стагоддзя назад




### УКРАЛІ АФІЦЭРА

З кожнай гадзінай вораг сціскаў кальцо вакол паўстанцаў. Я знаходзіўся ў цэнтральнай частцы горада, на вуліцы Хожай.

Падвал, у якім мы з маёрам Сенкам абмяркоўвалі становішча ў Варшаве, калаціўся ад выбухаў — білі шасціствольныя мінамёты. Білі так, што, як кажуць, носа не высунеш. Такая абстаноўка ўскладняла маю работу, але, як бы там ні было, я дзейнічаў.

Аднойчы ноччу, запрасіўшы да сябе польскіх таварышаў, я выказаў даволі цікавую ідэю аб тым, як украсці нямецкага афіцэра: «язык» патрэбен быў дазарэзу.

Юзэф паківаў галавой.

— Гэта вельмі складана.

— Але ажыццявіма, — запярэчыў я. — Паспрабуем?

— Добра, паспрабуем...

Мы спусціліся ў падзямелле і па каналізацыйных трубах дабраліся да штаба обергрупенфюрэра, камандуючага варшаўскім гарнізонам. Прыадкрыўшы чыгунную крышку люка, выглянулі. Нікога каля штаба, акрамя вартавых. Якая няўдача! Доўга заставацца тут нельга было, таму што гітлераўцы час ад часу кідалі пад люкі гранаты, пускалі газы, баючыся нападзення паўстанцаў.

Але... цярпенне. У той жа дзень мы паўтарылі свой маршрут пад горадам. І зноў няўдача. Давялося яшчэ раз зрабіць тое ж самае. І яшчэ. І нарэшце...

Гэта здарылася падвечар. Назіраем, прыўзняўшы люк. Грузавая машына. Салдаты згружаюць мэблю. Яшчэ дзве такія ж машыны прыйшлі. Са скрынямі. Раптам — легкавыя, тры штукі. Яны падкацілі да цэнтральнага пад'езда. Вядома, прыбыў хтосьці з начальства. Але хто? Нам патрэбна была важная персона, ні больш, ні менш.

З машыны высыпалі афіцэры і накіраваліся ў штаб. Мы падрыхтаваліся. Чакаем. Дзесяць мінут... дваццаць... трыццаць... Бачым, двое з партфелямі выходзяць са штаба і прама да машыны, да той, што стаяла паблізу нашага люка. Тут жа мы аднаго з іх схапілі за ногі — і ў падзямелле. Ён нават не паспеў крыкнуць. А другога, які ўзняў трывогу, Юзэф зваліў аўтаматнай чаргой.

Калі мы па каналізацыйнай трубе адышліся метраў на трыста, ззаду пачуліся выбухі гранат. Гітлераўцы схамянуліся, але позна.

Афіцэр, капітан па званню, аказаўся цяжкім. З цяжкасцю прыцягнулі мы яго ў размяшчэнне паўстанцаў і пачалі прыводзіць у прытомнасць. Медсястра перавязала яму невялікія драпіны. Высветлілася, што ён афіцэр штаба дывізіі, размешчанай за горадам, у раёне Акентэ. Якая гэта дывізія, чым узброена і якія яе мэты, мы даведаліся з дакладнай запіскі, якую я знайшоў у партфелі капітана.

На допыце капітан расказаў, што яны ўмацоўваюць абарону свайго ўчастка і што ў Варшаву перакінуты з Італіі і Францыі абаронныя злучэнні «Вікінг» і «Мёртвая галава». Акрамя таго, з Захаду прыбылі танкавыя часці.

Усе гэтыя звесткі былі важныя, і я неадкладна перадаў іх па радыё нашаму камандванню ў Цэнтр.

### ВЫХАД АДЗІН — ЦЕРАЗ ВІСЛУ

Калі стала вядома, што Бур-Камароўскі і яго прыбліжаныя вырашылі перадаць паўстаўшых у рукі гітлераўцаў, і калі ўсе звесткі аб праціўніку былі мною сабраныя, я прыняў рашэнне пакінуць Варшаву. Шлях быў адзін — да Віслы па каналізацыйных трубах. А там цераз раку ўплаў да сваіх.

У падрыхтоўцы да выхаду з Варшавы мне вельмі многа дапамог палкоўнік Багуміл. Ён забяспечыў мяне схемай каналізацыйных труб, што працягваліся ад Віслы.

Са мной пайшоў Юзэф. Свецячы ліхтарыкам, ён першы спусціўся ў каналізацыйны калодзеж. Адразу ж да пояса апусціўся ў вадкую гразь. Я сунуў пісталет у нагрудную кішэню і спусціўся следам за Юзэфам. Ледзяны смурод хлынуў за халявы, намоклыя штаны прыліплі да ног.

— Запалі ліхтарык, — сказаў Юзэф.

Мы пайшлі, падняўшы рукі над багнай, якая гойдалася. Пад ногі траплялі нейкія жалязякі, асколкі бітага шкла. Праменні нашых ліхтарыкаў скакалі ў вузкай сціснутай прасторы, выхопліваючы з халоднай імглы слізкія сцены, трубы помпаў, якія даўно бяздзейнічаюць. Зрэдку даносілася да нас глухое ракатанне.

— Страляюць! — парушыў цішыню Юзэф. — Езус Марыя! А што калі далей тунель забіты граззю?

Тунель звузіўся, і, адчувалася, не вельмі крута пайшоў у пад'ём.

Мы ішлі да таго месца, дзе галоўны тунель разгаліноўваўся.

Юзэф шапнуў:

— Гітлераўцы над намі. Каб не напароцца...

Неўзабаве мы пачулі далёкія галасы. Я спыніўся і выключыў ліхтарык.

— Гэта вельмі далёка, — супакойваючы сказаў Юзэф. — Магчыма, нашы... з іншых атрадаў. Або цывільныя.

Нечаканы грукат аглушыў нас. Здавалася, што над намі з шалёнай хуткасцю пранёсся поезд. Мінута цішыні... Потым наперадзе замільгацелі частыя ўспышкі, і той жа грукат зноў пранёсся над галавой. Па ўспышках я зразумеў: б'юць з кулямёта. Мы ніцьма ляглі ў ледзяную гразь, выключылі ліхтарыкі.

— Гітлераўцы... — данёсся з цемры асцярожны шэпт Юзэфа. — У абодва

# Мы вышэй гэтага

Наша чарцёжніца Аня нарадзіла сына.

А мужа ў яе няма. І не было.

Ну, магчыма, у іншым калектыве гэта выклікала б гутаркі. Магчыма, плёткі. І нават вывады. Карацей гаворачы, усхвалявала б і ўзбударажыла.

Але гэта ў іншым калектыве. А ў нашым як быццам нічога не здарылася, як быццам бы Аня і не нарадзіла, як быццам бы і муж у яе ёсць.

— Тое, што Аня нарадзіла, — гэта факт, — сказаў старшыня рады закладовай аддзела. — І тое, што мужа ў яе няма, — таксама факт. Але хоць Аня нарадзіла і без мужа, наш калектыў вышэй гэтага. Яе дзіця — наша дзіця.

Усе горача заапладзіравалі і скалаліся па дваццаць злотых на падарунак.

На наступны дзень на стале ў Ані сядзеў вялікі плюшавы мядзведзь, і ўсе мы па чарзе цалавалі шчаслівую маму.

— Хоць ты, Аня, нарадзіла і без мужа, — гаварылі мы, — наш калектыў вышэй гэтага. Мы акружым цябе апекай, мы не пакінем цябе адну.

Яшчэ праз дзень у сценгазеце прадпрыемства пад рубрыкай: «Увага: чуласць!» з'явіўся артыкул, у якім расказвалася аб тым, што чарцёжніца Аня С. нарадзіла сына, што гэта вялікае шчасце ў жыцці кожнай жанчыны і што шчасце гэта не было азмрочана нават тым, што Аня нарадзіла сына без мужа, не азмрочана таму што калектыў аддзела праявіў чулыя адносіны да Ані, акружыў яе ўвагай і апекай.

У канцы артыкула гаварылася: «Высакародная ініцыятыва аддзела павінна быць падтрымана ўсім калектывам прадпрыемства. Хай кожны падыдзе да Ані С., скажа ёй цёплае слова, і тады Аня зусім забудзе аб тым, што яна нарадзіла без мужа».

...Цэлых два гады мы акружалі Аню ўвагай і не пакідалі яе ў бядзе.

А ў мінулую нядзелю Аня выйшла замуж. Трапіўся ёй добры хлапец, палюбілі яны адзін аднаго, і згулялі мы ім вяселле.

Устаў наш начальнік аддзела і сказаў тост:

— Хоць у свой час Аня і нарадзіла без мужа, — сказаў ён, — наш калектыў аказаўся вышэй гэтага!

І мы закрычалі: «Горка!»

Арк. Інін, Л. Асадчук

# НІЎКА







— Як вырасцеце, таксама будзеце магчы насіць каляровыя зграбныя сукенкі.

### ПА-СУСЕДСКУ

Купіў, каб бліжняга даняць,
Іван трубу басовую,
І кожны дзень гадзін па пяць
Суседа «выпрабоўвае».
Сцяпан набыў ружжо — што гром,
І як трубу пачуе,
То пад Іванавым акном
На вераб'ёў палюе.
Сцяпан давёў Івана
Да кропель валяр'яны,
А сам ад «палявання»
Дайшоў да заікання.

М. Скрыпка



—Глядзі сабе пад ногі!

### ПРАМОЎЦА

Прамоўца: — Я доўга трэніраваў свой голас, каб было чуваць усюды...

Голас з залы: — Гаварыце, калі ласка, гучней! Нічога не чуваць.

### ЧАМУ

Яна: — Чаму ты размаўляеш у сне?

Ён: — Таму, што гэта адзіная магчымасць, якую ты мне дазваляеш.

### ЯКОЕ

— Якое вы ведаеце самае лепшае дасягненне хіміі? — спытаў прафесар у студэнта.

— Бландзінкі, — адказаў той.

### З ТУРЭЦКАГА

— Як слон, які залез на дрэва, злезе на зямлю?

— А ён учэпіцца за якінебудзь ліст і будзе чакаць да восені.

### Талаваломка



Да гэтых шасці яблык дабаўце яшчэ два, але размясціце іх так, каб атрымалася 6 радоў — па 3 яблыкі ў кожным радзе.

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара:**
Е = 6 (Шостая літара алфавіта)
К = 12 (Дванаццатая літара алфавіта)
Р = 18 (Васемнаццатая літара алфавіта)
Ц = 24 (Дваццаць чацвёртая літара алфавіта)

### У РЭСТАРАНЕ

Дырэктар рэстарана кажа п'янаму кліенту, які не хацеў плаціць за вячэру:

— Калі вы зараз жа не заплоціце, я паклічу міліцыянера!

— Няўжо? А хіба вы верыце, што ён згодзіцца заплаціць замест мяне?

### УЗНАГАРОДЫ

На кінафестывалі ў Канах гутараць два сцэнарысты:

— Усім дасталіся ўзнагароды: рэжысёрам, акцёрам, апаратарам... Не разумею, чаму толькі не ўзнагароджваюць гледачоў?

— Гледачоў?.. За што?

— За цярплівасць.



— Жонцы даў слова, што рука мая больш не дакранецца да чаркі...

### ПРОСТА

— Вашы блізняты вельмі падобныя. Як вы іх адрозніваеце?

— Вельмі проста. Валодзька ўмее лічыць да 100, а Мішка — толькі да 50.

### НА ШТО

Звоніць тэлефон. Дзіцячы голас гаворыць:

— Доктар, я — Алесь. Ці не прыйшлі б вы да мяне дадому?

— А на што ты хварэеш?

— Хваробы ў мяне розныя бывалі. А сёння я быў непаслухмяны, мне не дазволілі выходзіць з дому. А мне, разумееце, сумна...

### У МАГАЗІНЕ

Адзін селянін прыйшоў у магазін і, убачыўшы піжамы, спытаў:

— А гэта што такое?

— Гэта піжамы, — адказаў прадавец. — Іх апранаюць у начны час. Будзеце купляць?

—Навошта? — здзівіўся селянін. — Я ноччу нікуды гуляць не хаджу.

Без слоў.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ларысы, Люсі, Ніны, Надзі, Мані з вёскі Кузава, Тамары і Ліды з Плюшч, Валі з Альхоўкі, Любы Назарук і Марысі Мінюк з Градочна, Іркі, Галі і Зіны Аверчук, Галі Кіндзюк, Марыі Алейнічак, Раі Бяднарскай, Ніны Краўчынскай з Пасталова, Л. Каліноўскай з Падзалук, Лількі Краснадэмбскай з Паўлаў, Тосі, Валі і Ані з Малінікаў і Сяргея Місеюка з Бельска-Падляшскага змяшчаем песню п.з.

## PIĘKNE DNI

Nie wiesz nawet ile ci zawdzięczam
Byłam sama ja, ty byłeś sam.
Nie umiałabym odszukać szczęścia
A ty sprawiłeś, że smak jego znam.

Refren:

To były piękne dni
Po prostu piękne dni.
Nie zna już dziś kalendarz takich dat,
Wtedy uczyłeś mnie wymawiać imię swe.
Wtedy rzuciłeś dla mnie cały świat.

Uczuć dzisiaj czas już nie odmierza.
Miłość nie trwa tak jak dawniej wiek.
Szczęście kilku dniom się dziś powierza,
Bo one mogą nadać życiu sens.

Refren: To były... itd.

Jeśli jeszcze kiedyś się spotkamy
Może w moich oczach będą łzy.
Bo nie łatwo żyć jest wspomnieniami
Słowem ja zastąpić słowo my.

Refren: To były... itd.

### СУЧАСНАЯ МОЛАДЗЬ

У вагон поезда на поўным хаду ўскоквае малады чалавек з невялікім чамаданам і ў знямозе садзіцца на падлогу.

— Не тая цяпер моладзь, — уздыхае пажылы пасажыр. — Памятаю, у яго гады я бег за кур'ерскім цэлых пайкіламетра з чашкай кавы ў руцэ і, дагнаўшы поезд, быў свежы, як кветачка.

— Вы не маеце рацыі, — запярэчыў, пераводзячы дух, малады чалавек. — Я спазніўся на гэты поезд яшчэ ўчора вечарам.



Многія думаюць, што яны дасканалыя, бо не паддаюцца на ўдасканаленне.





### Навінкі моды







Лопнуў пузыр з паказамі калекцый на асенне-зімовы сезон. Нядаўна друк паведамляў аб месяцавых мадэлях рымскіх дыктатараў моды. Але, як відаць на здымку, і ў Парыжы Месяц зрабіў уплыў на праектантаў. Гэта мадэль з... метала.

З іншых экстравагантнасцей варта адзначыць, прапанаваныя ў Парыжы на бягучае гарачае лета, лёгкі мадэль з... жамчужын, а ў Лондане ўпрыгожванне вачэй пялёсткамі штучных кветак прапітаных густымі вейкамі з сапраўдных валасоў.